

**Позірк на Магілёў.**

# Выявы з Магілёва на Дняпры

**да артыкула, фатаграфіі Бёдэкера**

Магілёў азначае - магіла, аднак горад, што носіць гэтую назву, не мае ніякага сьледу паміраньня, альбо сьмерці. Падзеі, якія далі яму гэтае імя, ляжаць далёка ў мінулым, іх амаль забылі. Магілай кожнаму захопніку мусіў стаць гэты горад, і насамрэч тут правалiлiся напады літоўцаў, палякаў і швэдаў супраць Маскавіцкай імпэрыі, а яшчэ, у 1812г. там крывава патрапалі французаў. Паводле іншых меркаваньняў імя гораду далі шматлікія дагістарычныя курганы ў ваколіцах гэтага места. Як бы там не было: сучасны Магілёў моцны і жывы, гэты горад на Дняпры прыгожы і поўны пераканаўчай сілы. Цэрквы, а іх там мусіць быць 50, звычайна так часта прыземістыя і нязграбныя пад цяжкімі купаламі, у Магілёве аднак маюць нешта вольнае, радаснае і лёгкае, а вясёлае барока аб'ядноўвае белыя муры, аркі і аздабленьне ў адну адзіную доўгую, прыгожа выгнутую лінію.



**Немец і бальшавісцкі перакладчык на масту ў Магілёве.**



**Царскі палац у Магілёве.**
Апошняя кватэра цара перад рэвалюцыяй.



**Тэатральная плошча ў Магілеве.**

Магілёў, раней, за царскім часам, дакладна быў не чым іншым, як адным з расейскіх правінцыйных гарадоў, флегматычных і трошкі грубых, дзе не ў такім далёкім мінулым, калі чыгунка яшчэ не зьвязала іх са сьветам і жыцьцём, было сапраўды нудна, і частка гэтай нудоты дробных гарадкоў захавалася да сёняшніх дзён. Аднак той, хто зірне адкрытымі вачыма ўздоўж Садовай, цэнтральнай вуліцы, да ўзвышша дняпроўскага берага, а адтуль панад ландшафтам, той знойдзе больш чым дастаткова ўзьнёслага і ўвесь час прывабнага. На тым беразе ракі, што тут у сваім пачатку яшчэ не мае той імпазантнай шырыні, праз якую яна стала вядомай, ляжыць зямля Саветаў і бясконцая раўніна, цераз якую позірк ляціць у далёкія далечы, маленькі намёк на велізарнасьць Расеі. Абодва берагі зьвязвае жалезны рашэцісты мост, і бурлівы рух у абодвух напрамках сьведчыць аб новым адраджэньні жыцьця.





**Зьверху - Позірк на габрэйскае паселішча. У цэнтры - Жанчыны гандлююць садавінай у Магілёве. Зьнізу - Варта на Дняпры, дэмаркацыйная лінія Магілёў.**